# Самапомач Samapomač

Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс
„SAMAPOMACZ“

Rok VIII. Wilno, Czerwiec 1939 r. № 6 (92).

Год VIII. Вільня, Чэрвень 1939 г. № 6 (92).

*Аб чым піша «Самапомач»:*

| | | бач. |
|---|---|---|
| 1. | Папраўляйма недахопы . . . | 42 |
| 2. | Сенажаці й пустазельле . . | 43 |
| 3. | U savieckich kałhasach uznoŭ reforma . . . . . . . . | 43 |
| 4. | Жывакост як паша для сьвіней | 44 |
| 5. | Чаму ня сееце шальбабону? . | 45 |
| 6. | Ці крот ёсьць шкоднікам? . | 45 |
| 7. | Як усьцерагчыся ад пяруноў . | 46 |
| 8. | † Інж. З. Хмелеўскі . . . . | 46 |
| 9. | Гаспадарская хроніка . . . | 47 |
| 10. | Абарона прад пажарам . . . | 48 |
| 11. | Гаспадарская ўсячына . . . | 48 |
| 12. | Сакрэт ураджаю (укладка). | |

Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# Папраўляйма недахопы!

Калі заглянуць у статыстыку, дык кідаецца ў вочы вялікая розьніца між ураджаямі, якія асягае наш беларускі земляроб і такімі-ж ураджаямі заграніцай. Скуль гэта розьніца? Ці ўсяму вінавата наша „неўраджайная“ зямля, або благі клімат, ці беларускі селянін менш працуе, а мо' йшчэ што іншае?

Праўда, ёсьць на сьвеце й лепшая зямля й дагаднейшы клімат, але праўда й тое, што некаторыя краі маюць ня лепшую зямлю, чымся мы, Беларусы і пры такім-жа як наш клімат зьбіраюць ураджаі нязраўнана вышэйшыя за нас. Не гаворым тут аб такіх краёх, як Галяндыя, або Данія, дзе земляробы проста „адпіхаюць“ мора й засяваюць узьбярэжную зямлю й зьбіраюць з гэтага марскога дна багатыя ўраджаі. Але ўзгляньма на блізкую ад нас Літву або Латвію. Там прыродныя варункі дзеля земляробскай працы такія самыя, як і ў нас. Аднак у гэтых краёх сяляне маюць куды большыя ўраджаі, чым мы.

Чым гэта вытлумачыць?

Абмінаем тут пытаньне, што знача для поўнага разьвіцьця чалавека сьведамасьць ягонай незалежнасьці палітычнай. Зьвернем увагу толькі на асьвету. Сьцьвярджаем, што ад вырашэньня пытаньня асьветы залежа лёс народу, ня толькі ў жыцьці гаспадарчым, але ўва ўсім бяз вынятку. Калі мы дзівімся, да якіх ураджаяў дапрацаваліся іншыя народы, дык ведама, што ў тых краёх даўно й шырака працуюць навуковыя сілы, пашыраючы земляробскую веду праз земляробскія школы.

Як гэта прадстаўляецца ў нашай беларускай вёсцы?

Адказаць на гэта лёгка, але адначасна й сумна. Аб земляробскай школе няма што й гаварыць. Пры гэтым недахоп добрай кніжкі й адпаведнай арганізацыі. Дык вось папраўляйма нашыя недахопы хоць гэткім спосабам:

1. Направіць трэба ўсе недастаткі, якія ў гаспадарцы бываюць прычынай стратаў, г. зн. умела абхадзіцца з хляўным гноем і гнойнай жыжкай, закладаць кампосты, сеяць расьліны зялёнага гнаеньня.

2. Не дапускаць, каб на ніве расло пустазельле, бо гэта злодзей нашых палёў.

3. Сеяць як найбольш расьлінаў пашных, якія заменяць сена й авёс.

4. Часовай надвыжкі пашы ніколі не марнаваць, але старанна пераховываць, консэрваваць.

5. За ўсякую цану захоўваць ад спажыцьця насеньне сяўбовае.

6. Большую чым дагэтуль зьвярнуць увагу на гадаваньне ўсякай агародніны, салодкага лубіну (на пашу), расьлін аляістых і акопнінаў.

Па-за гэтым трэба расшыраць, паглыбляць і тасаваць практычна веду ўва ўсіх галінах гаспадарчага жыцьця.

---

*Хай злыдні над намі*
*скрыгочуць зубамі:*
*Любі сваю ніву, свой край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй, засявай!..*

ЯНКА КУПАЛА.

# Сенажаці й пустазельле

„Чаго так прыступіліся да гэтых сенажацяў? - скажа можа не адзін. Пісалі ў прошлым нумары, а цяпер узноў...“ Так: пісалі, пішам і пісаць будзем. Бо значэньне сенажаці ў земляробскай гаспадарцы стала ўзрастае Як бяз жывёлагадоўлі немагчымэй ёсьць гаспадарка, так без сенажацяў няма жывёлагадоўлі!

У якім стане нашы сенажаці—кожны хіба даволі ведае. Скуль-жа тады можа быць ў нас добрая скаціна й іншая гаспадарская жывёла?

Добрая сенажаць — гэта ня толькі „дар Божы“, але й прадукт творчай думкі й працы чалавека. Інакш кажучы, разумны чалавек патрапіць часта й благую сенажаць давясьці да стану добрага й вялікую з гэтага мець карысьць. Як гэта рабіць „на шырэйшую руку“, і „на дальшую мэту“, пастараемся пазьней апісаць больш падробна. Сягоньня позна ўжо гаварыць аб даглядзе сенажаці прад сёлетнім зборам сена й можна йшчэ сёе-тое прыпомніць толькі аб самым **сенакосе.**

Добрае сена, гэта ня самыя сухія сьцёблы травы, але ейныя лісткі й каласкі сабраныя **ў пару цьвету.** Як толькі травы перацьвітуць, усе ейныя спажыўныя часьці адплываюць з расьлінным сокам і наліваюць зярнё, а ў сьцёблах і пасохшых лістох астаецца толькі сухая, мала а то й зусім бязвартасная, як паша, ткань (салома). А дзеля таго, што налітае гэтак зерне травы звычайна таксама высыпаецца й прападае, дык ясна павінна быць кожнаму, што сенакос перацьвіўшай сенажаці гэта гаспадарская страта.

Але на гэтым на канец. Практычныя гаспадары заўважылі, што травы скошаныя пазьней пары цьвіценьня вельмі кепска адрастаюць як атава. — Урэшце сама прырода уставіла беларускага земляроба ў дакладныя рамкі: па летнім сонцавароце, якое бывае 21 чэрвеня, звычайна наступаюць у нас дажджы, якія калі і не замінаюць цалком у сенакосе, дык усё-ж працу вельмі утрудняюць.

З усяго гэтага зразумелай становіцца адна навука для земляроба: касіць сенажаць як можна раней і ў ніякім выпадку **не чакаць** да тае пары, **пакуль** травы на сенажаці **перацьвітуць.**

А цяпер яшчэ колькі словаў **аб пустазельлі,** якое часам хоць і прыемна бавіць наша вока, як напр. агульна ўсімі каханы *васілёк(!)*, то аднак і на полі, і на сенажаці зьяўляецца бяссумліўным шкоднікам, якога трэба канешна нішчыць. Абавязак нішчэньня пустазельля накладаецца сягоньня й адпаведным законадаўствам, за выкананьнем якога будзе глядзець паліцыя, але ў гэтым выпадку сам земляроб павінен ведаць сваю шкоду і карысьць, і ў пару адпаведна паступаць. Карэннае пустазельле (асот, пырнік, лебяда) нішчыць да чыста,

# U Savieckich kałhasach uznoŭ reforma

Dva hady tamu praviedzienaja reforma kałhasaŭ („kałchozaŭ“), jakaja pazvalała asobnym haspadarom mieć pry chacie na sobski ŭžytak aharod u płoščy ad ¼ da adnaho ciełaha hektara, dačakałasia novaj reformy, abvieščanaj anahdaj u Maskvie asobnym dekretam.

Dekret hety dzielić usich učaśnikaŭ kałhasaŭ na praŭdzivych kałhaśnikaŭ i na falšyvych abo „łžekałhaśnikaŭ“. Falšyvyja kałhaśniki heta tyja, što zapisvajucca ŭ kałhas „z adzinaj metaj atrymać nadzieł ziamli pry svajej sialibie i paśla adkazacca ad učaścia ŭ ahulnaj rabocie“. Hetkich „kałhaśnikaŭ — spekulantaŭ buduć ciapier z kałhasaŭ prosta vykidać. Vyjaśniajecca pry hetym, što ŭłady savieckija vykarystyvajuć imknieńnie sialan mieć „svoj kusok ziamli“, kab pieravodzić ich paśla na Daloki Ŭschod ŭ Sibir, u rajony Omska, Čalabinska, Ałtaja, Kazachstanu i inš. miascy.

Sprava dalšych źmien zakonu ab kałhasach budzie vyrašana na źjeździe kałhaśnikaŭ, jaki pradbačycca na sioletniuju vosień. A tymčasam novy ŭžo ŭspomnieny dekret prypaminaje, što ŭsia ziamla kałhasa jość ułasnaściu hetaha kałhasa i źmienšyć abšar kałhasa možna tolki na padstavie asobnaha zakonu S.S.S.R. (centralnaha). Miascovyja (aŭtanomnyja?) ŭłady mohuć abšar kałhasu tolki pavialičyvać, ale nia mohuć źmianšać.

# Жывакост як паша для сьвіней

На неспакойны час, які цяпер перажываем, трэба больш чым дагэтуль думаць аб пашных расьлінах для гаспадарскай жывёлы, асабліва аб такіх, якія няпрыгодны для вайсковых коняў. Такой цэннай пашай для сьвіней зьяўлаецца жывакост, перад усім **жывакост-матадор.** Практычныя гаспадары кажуць, што сьвіні кормленыя гэтым жывакостам блізу на палавіну больш прыбывалі на вазе, чым сьвіні кормленыя розным зьбіраным зельлем, пры аднолькавай абмешцы.

Пашная вартасьць жывакосту ў тым, што ён, раз засаджаны, расьце буйна праз 6-8 гадоў, калі па кожным зборы аржышча ягонае на 100 кв. м· пагнаіць мешанкай 2 клг. салетры і 2 клг. 20 прац. потасавай солі, а так-жа разведзенай гнойнай жыжкай. Другая добрая старана жывакосту, гэта што ён пачынае зелянець зараз як толькі адмерзьне зямля і праз 2-3 тыдні ўжо дае першы пакос. За лета такіх пакосаў лёгка можа быць 5—6; апошні пакос вельмі позны, калі ўжо нічога не расьце. Урэшце трэцяя свомасьць жывакосту гэта ягоная асаблівая прыдатнасьць для маладых парасят. Жывакост мае ў сабе асааблівую складовую сучастку, г. зв. *алянтоін,* алькалёід, які апрача жывакосту знаходзіцца йшчэ ў пладовых водах маткі. Гэты алькалёід алянтоін падганяе да росту плод у лоне маткі і гэтым так-жа тлумачыцца, чаму жывакост так „падганяе" рост парасяці ўжо народжанага.

Жывакост вельмі не пераборлівы што да гатунку глебы, але добра адплачвае рэшту ягонага гнаеньня. Найлепш разводзіць жывакост з куcкоў карэньня. Уважаць пры гэтым трэба, каб такое карэньне ўсярэдзіне было зусім здаровае і ня грубшае як 2 см., йнакш павырастаць могуць расьліны слабыя, хваравітыя. Таму так-жа лепш купляць карэньне жывакосту на саджэньне не на вагу, а на штукі.—З пачаткам кожнай вясны плянтацыю жывакосту трэба абгледзіць і пагнаіць на 100 кв. м. мешанкай 4 клг. азотняковай супэртомасыны і 5 клг. потасавай солі.

Р. С - скі

---

а цьвітучаму пустазельлю акрамя таго ня можна пазволіць каб зацьвітала. Такую напр. сьвірэпку, калі-б яна, на няшчасьце,закрасавалася над засеўшай пры зямлі ярыной, трэба скашываць ці йнакш абрываць прынамся ўсе расьцьвітаючыя галоўкі,

Словам,сягоньня ня можна пакідаць нічога, што абмежвае ці й зусім нішчыць гаспадарскі ўраджай. Позную касьбу й цьвітучае на ніве пустазельле трэба зводзіць як найхутчэй, бо гэта доказ нашай гаспадарскай адсталасьці.

С. Я-віч

---

Kab na budučyniu nia było vypadkaŭ samavolnych „pryrezkaŭ" kałhasnaj ziamli u pryvatna ŭžyvanyja aharody, aharody hetyja buduć nadzialacca biezpasiaredna pry sialibach, a nia ŭ poli. Chto zrabiŭ sabie hetkija niezakonnyja „pryrezki", toj pavinien viarnuć ich kałhasu nie paźniej 15 śniežnia sioł. A treba viedać, što dziejalisia byccam u kałhasach rečy sapraŭdy „cikavyja": kałhaśniki nia tolki rabili „pryrezki", ale i zdavali svaje „nadziely" (aharody) ŭ arendu, a navat ich pradavali. Za hetkija spavy na budučyniu buduć adkazny prad sudom nia tolki samyja paasobnyja kałhaśniki, ale i ŭłady kałhasaŭ: sekretary i staršyni.

Akramia taho pradbačycca „čystka" i siarod usich kałhaśnikaŭ. Za praŭdzivaha kałhaśnika maje ličycca tolki toj, chto vykažycca nia mienš jak 60 da 80 trudadniami, zaležna ad rajonu. A było śćvierdžana, što byli takija „kałhaśniki", jakija mieli tolki 20 trudadzion.

Urešcie važna i toje, što vykrytyja hetyja liški pracoŭnych ruk majuć być skiravany ŭ promysieł. Rachujuć, što zdabuduć hetak dla promysłu kala 4 miljonaŭ pramysłovych rabotnikaŭ. Hety samy dekret spadziajecca zdabyć dla „praduktyŭnaj pracy" jašče kala 6 miljonaŭ žančyn, zaniaćciem jakich jość tolki „chatniaja haspadarka".

*Pavodle „Рус. Голос"*



## Што чытаць аб гаспадарцы?

З Беларускай Земляробскай Бібліятэкі:

№ 1. **Ziemlarobskaja čytanka.** Napisaŭ inž. ahr. A d. K l i m o v i č. Zbornik samastojnych artykułaŭ z usich halinaŭ ziemlarobskaj haspadarki (polnaja haspadarka, žyviołahadoŭla, haspadarka małočnaja, chatniaja, rybnaja, pčalarskaja i h. d.), sastaŭlenych pavodle poraŭ hodu: viasna, leta, vosień, zima. Bačynaŭ 144, Vilnia 1932.

№ 2. **Majovy chrušč i sposaby baraćby z im.** Napisaŭ M. K a r a l e n k a. Bač. 12, Vilnia 1935.

№ 3. **Асновы Земляробскай Эканомікі.** Напісаў інж. агр. А д. К л і м о в і ч (з друку выйдзе да канца 1939 г.).

№ 4. **Садоўніцкая чытанка**—ілюстраваны зборнік артыкулаў аб гадаваньні садовых др ваў, аб даглядзе іх і абароне ад усялякіх шкоднікаў і аб спосабах ужыткаваньня самай садовіны. Праца колектыўная. Бачынаў 84, Вільня 1938 г.

№ 5. **Чаго патрабуе зямля?**— Кароткае высьненьне дзеля навукі маладым гаспадаром аб угнойваньні, з ілюстрацыямі. Напісаў інж. агр. В. Сазанскі. Бач. 26, Вільня 1939 г.

Апрача таго выданы:

**Матыльковыя расьліны** — перагляд і застасаваньне важнейшых матыльковых расьлін спатыканых у Беларусі. Напісаў інж. С. Б у с е л. Бач. 62, Вільня 1932.

**Пчолы і як вадзіць іх у рамовых вульлях.** Напісаў Я. П а ч о п к а. Бач. 190+11, Вільня 1923.

**Малочная карова.** Як яе выбіраць, карміць і даглядаць. Напісаў Я. П а ч о п к а. Бачынаў 84. Вільня 1928.

**Leki na ździeki.** Papularny narys kooperatyŭnaj samapomačy. Napisaŭ inž. A d. K l i m o v i č. Bačynaŭ 32, Vilnia 1932.

## VI. Значэньне сорту пры пасеве й саджэньні

Сорт у гадаваньні расьлінаў мае такое самае значэньне, як і раса ў гадаваньні жывёлы. Гаспадар, купляючы сартовае (заводнае) насеньне, павінен дамагацца:

1. каб расьліна з гэтага насеньня адпаведна да свайго сорту кусьцілася,*) 2. каб была адпорнай проці выляганьня, 3. — вымярзаньня, 4.—хваробаў, 5. запаркі, што насеньне нявыраджанае, і 6. што ў час пасьпее.

Як сорт разумеем пэўны род расьліны, які мае ўстаноўленыя найлепшыя прыметы, напр. найбольшую выдайнасьць зярняці аднолькавай якасьці, роўнамерную і доўгую салому, такі самы колас і г. д. Кожны сорт пазнаецца паводле формы й колеру каласка, паводле вышыні й колеру сьцябла ды паводле гэктолітравай вагі. Сорт садзьбовай б у л ь б ы пазнаецца па вялічыні й форме бульбы (бульбіны), па колеры шалупіны, мяккіша й цьвету. Сорт б у р а к о ў пазнаём па выдайнасьці, г. зн. па сталым ураджаю, па велічыні ўраджаю, па велічыні карэньня й лісьця, найбольшага працэнту сушы**) й цукру. Таму не карысна купляць насеньне буракоў простых сартоў, бо паходзяць яны звычайна з такіх гаспадарак, якія пры прадукцыі насеньня ня выбі-

*) Пад словам „кусьціцца“ разумеем здольнасьць засеенага зярняці пускаць некалькі расткоў, якія пасьля разрастаюцца ў асобныя сьцёблы.

**) Суш кожнае расьліннае ці жывёліннае масы—гэта вага ўсяе гэтае масы дакладна высушанае, а знача без вады — А. К.

вадь яшчэ добрыя ўраджаі праз некалькі дальшых гадоў. Пазьней такое сартовае насеньне звычайна

20. Якое значэньне мае вага насеньня?
21. Як абрахоўвуецца гаспадарская прыдат-

раюць бульваў адпаведна да іхняй цукровасьці й ваданістасьці.

Кожны сорт мае свае асобныя вымогі што да грунту й угнаеньня, клімітычнага палажэньня й атмосфэрычных вопадзяў (дождж, сьнег). Таму, купляючы сартовае насеньне ці садзьбу, трэба разьведаць, у якіх варунках насеньне расло, каб пераканацца, ці дадзены сорт надаецца ў аколіцы купляючага або на ягоны собскі грунт. Часта трапляецца, што вельмі выхвальваныя сарты не апраўдываюць сябе й прыносяць толькі страту, а тымсамым вельмі шкодзяць пашырэньню добрых гатункаў розных гаспадарскіх расьлінаў. Найлепшым сортам ці гатункам будзе той, які ўжо акліматызаваны, г. зн. які ўжо прыстасаваўся да дадзенага клімату й зьмененых жыцьцёвых варункаў.

Гаспадарская навука дзеліць сарты на: арыгінальныя й краёвыя, а акрамя таго на групы сартоў адборных (ушляхотненых) і на г. зв. перасевы ці адсевы.

Насеньне арыгінальнае — гэта насеньне пэўнай аколіцы, скуль яно спачатку выйшла й распаўсюдзілася (разыйшлося) ў адборных, палепшаных формах. Арыгінальныя сарты, якія выгадаваны былі на падставе вельмі старраннага падбору, трываўшага праз дзесяткі гадоў, дзелім на: 1. галоўную групу, гэтак званую «экстра-эліта», якая не прадаецца, а служыць гадаўцу дзеля захаваньня чысьціні й добрай якасьці сорту, і 2—3. на дзьве падгрупы: «эліта I» і »эліта II». Элітнае насеньне можна ўжо купіць і яно звычайна вельмі дарагое.

Збожа выгадаванае з элітнага насеньня называецца «адсеў I», г. зн. засеенае ў першым годзе, і «адсеў II», калі гаспадар засеяў яшчэ на другі год. Адсевы засееныя на трэці год становяцца ўжо звычайным поўсартовым насеньнем. Усёжтакі пры старанным падборы найлепшага сартовага насеньня й адпаведнай абробцы грунту могуць і адсевы да-



## Зьмест

*бач.*


Уступ . . . . . . . . . . . . . . . 3
I. Як размнажаюцца гаспадарскія расьліны 4
II. Чаго вымагаем ад насеньня й садзьбы . 6
III. Як ацэньваем насеньне й садзьбу . . . 7
А. Агульная ацэнка . . . . . 7
Б. Спэцыяльная ацэнка . . . . 9
1. Выгляд . . . . . . . . . 9
2. Велічыня . . . . . . . . 10
3. Стан здароўя . . . . . . . 10
4. Чысьціня . . . . . . . . 11
5. Полыск . . . . . . . . . 13
6. Колер . . . . . . . . . 13
7. Запах . . . . . . . . . 14
8. Смак . . . . . . . . . 15
9. Вогкасьць насеньня . . . . 17
10. Здатнасьць і сіла прарастаньня . 17
11. Вага . . . . . . . . . 21
IV. Ад чаго залежа добрая якасьць насеньня 24
V. Як аблічаць гаспадарскую прыдатнасьць насеньня . . . . . . . . . . . 26
VI. Значэньне сорту пры пасеве й саджэньні 29
VII. Прыгатоўваньне насеньня да пасеву . . 33
1. Ачышчэньне . . . . . . . 33
2. Заразныя хваробы збожа . . . 34
3. Пратручваньне насеньня і садзьбы 36

20. Якое значэньне мае вага насеньня?
21. Як абрахоўвуецца гаспадарская прыдатнасьць насеньня?
22. Якое значэньне сорту пры пасеве ці пры пасадцы?
23. Як прыгатаўляць насеньне для пасеву?
24. Як яго абчышчаць?
25. Што такое зьмеявік, трыер і да чаго яны служаць?
26. Якія ёсьць заразныя хваробы нашага збожа й як прад імі бараніцца?
27. Як пратручваць насеньне?

---



ваць яшчэ добрыя ўраджаі праз некалькі дальшых гадоў. Пазьней такое сартовае насеньне звычайна выроджваецца й з часам затрачвае блізу зусім свае добрыя пачаткавыя прыметы й азнакі.

Гэтак званыя «краёвыя сарты»—гэта тыя роды гаспадарскіх расьлінаў, што «спаконвякоў» гадуюцца ў пэўнай аколіцы. Яны на гэтулькі добрыя, што ў працягу дзесяткаў гадоў расьлі на адным месцы й зжыліся з мясцовымі варункамі. Аднак з тае прычыны, што ня было каму вясьці спаміж іх умелага падбору (сэлекцыі) і палепшываць прыметы ўжо існуючыя, даюць яны ўраджай слабейшы (меншы) і няроўнай якасьці. З краёвых сартоў, стараным і навукова ўгрунтаваным падборам можна выгадаваць адборныя формы гаспадарскіх расьлінаў.

Добрыя сарты гаспадарскіх расьлінаў выроджваюцца праз зьмену жыцьцёвых варункаў (якасьць грунту, абрабляньне яго й угнойваньне), праз недагляд пры зьбіраньні ўраджаю, звозцы, малацьбе й перахоўваньні, калі мяшаюцца з сабой розныя сарты й гатункі. Выроджваюцца добрыя сарты, калі наступіла сама — або чужаапыленьне іншымі непажаданымі сартамі ці гатункамі. Такое запыленьне зусім зьмяняе пачаткавыя прыметы нейкага сорту, якія зьяўляюцца ягонымі прыметамі спадчыннымі. Ад усяго гэтага аслабляецца жыцьцёвая сіла арыгінальнай сартовай расьліны й тымсамым зьменшываюцца ейныя добрыя прыметы, аж урэшце зусім зьнікнуць.

Сартовае насеньне (заводнае) звычайна бывае нават вельмі дарагое ў параўнаньні з цэнамі, якія плацяцца за насеньне звычайнае. Гэта таму, што праца над палепшаньнем сорту й ўтрыманьне ягонай чысьціні й прыметаў вымагае ад гадавельніка вельмі вялікага ўкладу працы й граша. Хто займаецца гадаваньнем заводнага насеньня, той мусіць мець вялікае фаховае й навуковае прыгатаваньне, вытрываласьць і вялікі практычны досьлед. Праца над

палепшаньнем насеньня цягнецца праз доўгія дзесяткі гадоў, пры найтачнейшай кантролі, беспрарыўным выбары найлепшых адзінак спаміж дзесяткаў тысяч расьлін, якія зьверху маюць аднолькавыя азнакі й прыметы. Далей, трэба расьліны пры гэтым стала крыжаваць паміж сабою, каб утрымаць дадзеную расьліну на належнай вышыні ейнага тыпу й выдайнасьці.

Вучоны дасьледчык над палепшаньнем расьлінаў, праф. Рюмкер, на падставе цэла-жыцьцёвага досьледу цьвердзіць, што засейваючы палепшаныя сарты можна сярэдні ўраджай пабольшыць у пшаніцы на 8q*), у жыта на 6q, у ячменю й аўса на 4q на адным гэктары. Таму паступовы гаспадар павінен час-ад-часу зьмяняць пасеўныя сарты збожа й іншых расьлінаў ды падбаць аб добрым абрабляньні зямлі, аб адпаведным угнаеньні й аб падборы на гэткі грунт найлепшага сяўбовага насеньня.

---

*) q = мэтрычны цэнтнар = 100 кілё.



## Кантрольныя пытаньні

1. Як нам трэба гаспадарыць, калі ў нас мала зямлі?
2. Чаму не хапаюць старыя спосабы гаспадараньня?
3. Чаму важная якасьць насеньня?
4. Як размножваюцца расьліны?
5. Якія расьліны размножваюцца насеньнем, а якія бульвамі?
6. З якіх галоўных частак складаецца кожны расьлінны плод?
7. Да чаго служа абалонка, кармавыя запасы й зародак?
8. Якім павінна быць насеньне й садзьба?
9. Якім павінна быць зерне пшаніцы, жыта, ячменю, аўса, проса, кукурузы, гароху, канюшыны, люцэрны, буракоў?
10. Якія ўнутраныя й вонкавыя прыметы павінна мець насеньне?
11. Які выгляд павінна мець насеньне?
12. Якую велічыню?
13. Якое насеньне ёсьць здаровым?
14. Чаму важным ёсьць чысьціня насеньня?
15. Як абрахоўвуем чысьціню насеньня?
16. Якое значэньне маюць полыск і колер насеньня, запах і смак?
17. Ці важнай ёсьць сухасьць зерня, да якога ступня й чаму?
18. Што такое здатнасьць і энэргія прарастаньня?
19. У колькі дзён прарастае жыта, пшаніца, авёс, боб, грачыха, бурак, морхва, пашныя й іншыя расьліны?

вады 7 дэка прэпарату). — Каб насеньне з улітым прэпаратам дакладна перамяшалася, бачонак ці скрынка павінны быць так устаўлены, каб іх можна было лёгка круціць. Кручэньне такое за кожным разам трывае 2 да 5 мінут.

Каб пратруціць збожа, якое падазраецца, што мае зародкі сьнегавой плесьні, ужываецца с у б л і м а т (сільная атрута!) у пастыльках (1 пастылька на 1 літр вады). На 100 клг. збожа трэба 15 літраў раствору. Зерне скропліваецца растворам і дакладна перамешваецца

Часта гаспадар ня мае часу на прыгатаўляньне раствораў, таму штораз больш пашыраецца пратручваньне на с у х а. Гэты спосаб палягае на тым, што кожнае зернятка насеньня быццам абвіваецца тоненькім слоем прэпарату (парашку), які й забівае зародкі грыбковых хваробаў, што аселі на версе гэтых зернятак. На зерне ў сухой скрынцы ці бочцы насыпаем адпаведную колькась сухога прэпарату й круцім корбаю 3 да 4 мінут.

Пратручваючы збожа ня трэба забывацца, што нічога не паможа, калі пратручанае зерне будзем ссыпаць у мяшкі ці на посьцелкі, якія стыкаліся з збожам заражаным, або блізка такога збожа (у гумне, у сьвірне) перахоўваліся. Таму трэба пратручваць таксама посьцелкі й мяшкі ў растворы сіняга каменя. Бярэцца на гэта 1 клг. гэтага каменя на 50 літраў вады й мочыцца праз 12 гадзін.

---



## VII. Як прыгатаўляць насеньне на сяўбу

1. Ачышчаньне. Насеньне на сяўбу трэба дакладна вычысьціць ня толькі з насеньня ўсякага пустазельля, але таксама трэба выдзяліць насеньне іншых расьлінаў і чысьцячы атрымаць найлепшае й найцяжэйшае насеньне. Найпрасьцейшай машынай дзеля ачысткі збожа ёсьць звычайны млынок («арфа»). На такім млынку, пры помачы штучна вытворванага ветру (працягу), аддзяляюць мяккіну ад зярняці, а на сітах сартуюць цяжкае зерне ад недаразьвітага, аддзяляюць усякія дамешкі, як каласкі, каменьчыкі, насеньне пустазельля й інш.

Ужо больш удасканаленай машынай ёсьць сартаўніца, так званы з ь м е я в і к. Гэта ёсьць труба ў форме шруба. На версе ёсьць кош, у каторы насыпаецца зерне, якое коціцца ўніз, па дарозе сартуецца адпаведна да велічыні, і ад зярняці аддзяляецца насеньне круглае, напр. віка ад жыта і аўса, даволі добра ад пшаніцы й ячменю; гарох ад вікі—з прычыны цэнтрагоннай сілы. Чым круглейшае зерне, тым большага яно набірае разгону й таму далей адкачываецца ад восі зьмеявіка. Лёгкае й заморанае зерне ссуваецца ўніз паволі й трымаецца каля самай восі. Высартаванае зерне вывальваецца асобнымі дзіркамі. На зьмеявіку за гадзіну можна перапусьціць каля 5q збожа. Сартуецца гэтак на зьмеявіку збожа прад тым ачышчанае на арфе.

Найлепшай машынай да сартаваньня збожа ёсьць трыер. На ім аддзяляем чыстае зерне паводле буйнасьці на некалькі групаў і такія дамешкі, як куколь, гарашок і т. п.

Насеньне буракоў сартуецца й чысьціцца на спэцыяльнай буракавай сартаўніцы. Зроблена яна гэтак: на двух навоях (валках), з якіх адзін вышэй другога, нацягнена наўскос палатно, абодва канцы якога спашыты, творачы гэтак званы безканечны пояс. Адзін валак мае корбу. Над валкамі прымешчаны кош на насеньне. Яно падае на палатно, якое рухаецца (круціцца) ўгару. Зерне, як цяжэйшае, коціцца ўніз, а адломкі саломы й мякіны сунуцца разам з палатном угару й перавальваюцца на другі бок сартаўніцы.

Ёсьць яшчэ спэцыяльныя трыеры, так званыя «кускута», якія аддзяляюць з канюшыны й люцэрны драбнюсенькае насеньне пярсьцёначніка.

У кожным сяле павінен быць супольны трыер, а там, дзе гадуюць насеньне канюшыны й люцэрны, добра было-б купіць яшчэ й трыер «кускута». У багацейшых сёлах павінен быць для супольнага ўжытку таксама зьмеявік.

**2. Заразныя хваробы збожжа.** Да найбольш небясьпечных хваробаў збожжа належа рознага роду цьвіль (сьнець), якая дзеліцца на тры групы, залежна ад таго, як і калі яна шкодзіць, пайменна:

*1. Цьвіль, якая ў кожную пару году можа заразіць маладыя расьлінкі.* Да гэтай групы належыць кукурузавая галаўня (*Ustilago maydis*). На месцы, на якое напаў гэты грыбок, вытвораецца нарыў (пухліна), у якім поўна зародкаў гэтай хваробы. Пратручыванне (інакш байцаваньне*) мала памагае ад гэтай хваробы. Найлепш нарывы гэтыя, пакуль яшчэ яны ня трэснулі, уважна сабраць і спаліць. Зародкі гэтай грыбковай хваробы ў зямлі праз даўжэйшы час затрымліваюць сваю жывучасьць і тымсамым заўсяды забясьпечаны для нова прарастаючых расьлінак.

---

*) абпратручваньні шкодных грыбкоў у пасеўным зярняці будзе мова далей — А. К.



ме 40 прац. цечы. На сто літраў сьцюдзёнай вады бярэцца $1/4$ літра формаліны. Пратручваецца падобна, як і сінім каменем, толькі ў растворы насеньне трымаецца даўжэй, бо 15—20 мінут. Выняўшы зерне з раствору трэба яго прапаласкаць у чыстай, сьцюдзёнай вадзе.

Пры пратручваньні формалінай трэба паступаць вельмі асьцярожна, бо формаліна выдзяляе едкую пару, якая можа быць прычынай запаленьня вачэй. Таму найлепш галаву адвярнуць і без патрэбы не нахіляцца над пасудзінай з растворам.

Пратручваючы формалінаю гаспадар мае тую выгоду, што збожжа, якое астаецца ад пасеву, можна без ніякай шкоды для людзкога ці жывёліннага здароўя выкарыстоўваць. Затое збожжа пратручанае сінім каменем ёсьць затрутым і таму, калі астаецца, дык яго трэба спальваць.

Сто літраў разгледжанага тут раствору хапае, каб пратруціць 3 да 5 q збожжа. Што да аўса, дык практыка паказала, што пратручваньне яго сінім каменем нічога не памагае.

Можна таксама пратручваць рознымі фабрычнымі парашкамі (прэпаратамі), як Гермізан, Успулюн, Зярнік і інш. Для пратручваньня гэтымі прэпаратамі трэба мець асобны бачонак, або скрынку, якія павінны быць вельмі шчыльнымі. Гэтыя пасудзіны робяцца звычайна з вырахаваньнем, каб умясьцілі ў сабе 50 кілёграмаў насеньня.

Мокрым спосабам пратручваем гэтак: насыпаем 50 клг. збожжа й уліваем на жыта адзін літр 2 прац. раствору Успулюну ці іншага гатовага прэпарату (знача на 1 літр вады 2 дэка прэпарату), на пшаніцу паўтара літра, а на ячмень 2 літры раствору. На пратручаньне гароху, фасолі, лубіну й іншых стручковых (матыльковых) расьлінаў раствор павінен быць 4 прац. (на 1 літр вады 4 дэка прэпарату), на буракі 6 літраў $3^1/_2$ прац. раствору (на 1 л. $3^1/_2$ дэка прэпарату), а на лён 3 літры 7 прац. раствору (на 1 л.

Калі хто хоча пратручываць насеньне сінім каменем, дык купляючы яго павінен уважаць, каб ён быў у вялікіх і бліскучых крышталах. Даўна выраблены (стары), або зьветраўшы камень ёсьць матавы й звычайна пакрышаны на парашок. Куплены сіні камень трэба самому расьцерці на дробны парашок і праз ноч улажыць у лянным мяшку ў гарачую ваду, каб распусьціўся, а пасьля разбаўляем яго ў такой прапорцыі, каб на 100 літраў вады было 1 клг. сіняга каменя: у раствор даліваем гэтульки сьцюдзёнай вады, каб разам было 100 літраў. Гэткі раствор ужо гатовы да ўжытку.

Перад уласьцівым пратручваньнем трэба прыгатаваць сабе зусім чыстую грубую тканіну (зрэбніну), кош абшыты з сярэдзіны чыстым рэдкім, але нядзіравым мяшком, пасудзіну з чыстаю вадою на прапалосківаньне пратручанага насеньня, пасудзіну на раствор і мелкі цэбар (балею) на адкапваньне вады.

Да пратручваньня трэба двух людзей. У кош, што зьмясьціць можа 10 да 20 клг. збожа, усыпаем зерне, якое маемся пратручываць і ўкладаем яго ў судзіну з растворам. Адзін трымае кош, а другі рукамі перамешвае зерне. Тое зерне, якое ўсплыло на верх, трэба сабраць у асобную пасудзіну й спаліць. У 1 прац. (аднапрацэнтным) растворы трымаем насеньне толькі 4 да 5 мінут—не даўжэй! Выняўшы кошык з збожам з раствору апіраем яго на паложанай над растворам перакладзіне (на калку, на дошцы ці нечым падобным), а калі ўвесь раствор выцячэ, прапалосківаецца гэта збожа ў чыстай вадзе й высыпаецца тонкім пластам на рассьцеленай чыстай тканіне (на посьцелках), каб прасохла. За гадзіну—паўтары збожа ўжо сухое й яго можна высейваць.

Іншым добрым і танным спосабам пратручываньня сяўбовага насеньня ёсьць формаліна. Купляецца яна ў аптэцы або ў аптэчным складзе ў фор-



*2. Цьвіль, зародкі якой пускаюць расткі (прарастаюць) у часе цьвіценьня* (красаваньня) збожа на самым ягоным цьвеце, і пасьля ўрастаюць у завязі. Зерне нападзенае такою цьвільлю дасьпявае зусім нармальна й ня выказвае ніякіх вонкавых знакоў хваробы, так што заражанае збожа ня можна адрозьніць ад збожа здаровага. Хвароба гэта паявіцца толькі тады, калі заражанае зерне будзе засеена й пусьце расткі, бо з растком зярняці адначасна прабудзіцца да жыцьця й зародак гэтай хваробы.

Зародкі гэтай цьвілі пры вышэйшай цеплаце й пры мернай вогкасьці прабуджаюцца да жыцьця й пачынаюць разьвівацца. Таму цьвіль гэткага гатунку вынішчаецца толькі гарачай вадой, якая ейныя зародкі забівае, але ня шкодзіць растком збожа. Да гэтага гатунку цьвілі належаць: цьвіль пшанічная парахністая (*Ustilago tritici*) й цьвіль ячменная (*Ustilago hordeum nuda*).

*3. Цьвіль* (таксама *галаўня*), якая можа заразіць толькі расьліну пусьціўшую расткі, у ейным найранейшым розьвітку. Калі пусьціўшыя расткі расьліны маюць у глебе даволі корму, дык могуць шкодніка перамагчы. Гэты грыбок вырастае разам з сьцяблом і нішча ўвесь каласок, у якім пасьля зусім не вытвараюцца зерняткі. Расьліны заражаныя гэтаю хваробаю можна пазнаць ужо на полі пры дасьпяваньні збожа. Побач з здаровымі каласкамі знаходзім тады каласкі цямнейшыя, што зразу кідаецца ў вочы. Гэткія заражаныя каласкі ня зьгінаюцца пад цяжарам зерня, а стаяць проста, плеўкі (мяккіна) адстаюць, паасобныя зерняткі карацейшыя чым звычайныя й ўсяляк паперахіляныя. Усярэдзіне такія зярняты напоўнены чорнаю, сьмярдзючаю масаю, запах якой зусім прыпамінае запах селядца. Гэта маса, калі надвор'е сырое, мажыцца, здаровае зерне заражваецца ад насеньня хворага пры малацьбе, калі плеўкі мяккіны раскрываюцца й зародкі разьлятаюцца на ўсе бакі.

Да гэтага гатунку цьвілі належаць:

Мокрая галаўня на пшаніцы (*Tilletia tritici*), гладкая галаўня на пшаніцы (*Tilletia laevis*), жытняя цьвіль (*Tilletia secalis*), сьцеблавая цьвіль (*Urocystis occulta*), ячменная цьвіль (*Ustilago hordei*), аўсяная цьвіль (*Ustilago avenae*), аўсяная гладкая цьвіль (*Ustilago laevis*), просяная цьвіль (*Ustilago panici miliacei*) і г.д.

Сьнегавая плесьня (*Fusarium nivale*) шкодзіць на прарастаньне насеньня па высеве, а так-жа бывае прычынай выправаньня. Расток скручваецца й не разрастаецца. Пад сьнегам творыцца плесьневае павучыньне (налёт). Зародкі дастаюцца на цьвітушчы каласок і заражаюць вытваранае зерне.

**3. Пратручваньне насеньня й садзьбы.** Зародкі грыбковых хваробаў на насеньні можна пратручваць („байцаваць“) спосабамі фізычнымі (вадою), або хэмічнымі прэпаратамі — на зімна або на гарача. Пратручваньне на зімна можа быць на суха або на мокра.

Цьвіль другой групы нішчымо толькі гарачаю вадою, таму, што хэмічныя прэпараты скуткуюць толькі на паверхні насеньня, а зародкі гэтай цьвілі схаваныя ўсярэдзіне зярняці. Дзеля гэтага намочваем пасеўнае насеньне ў гарачую (але не ў вара-так! — *А. К.*) ваду на 4 да 6 гадзінаў. Для ячменю такая вада павінна мець 25 да 35°Ц, а для пшаніцы 30 да 40°Ц. Пасьля ўсыпаем гэтак намочанае насеньне ў пасудзіну з вадой цяплейшай на 10 мінут. Цяпліня такой вады для ячменю мае хістацца ад 50 да 52°Ц, а для пшаніцы ад 52 да 53°Ц. Аднак цяпліня вады ня можа быць аднолькавая для кожнага сорту ці гатунку, бо яны неаднолькава ўражлівыя на гарачую ваду. Таму наўперад трэба выпрабаваць гэтую ўражлівасьць насеньня на малой ягонай колькасьці.

Пратручваньне гарачай вадой гэта спосаб даволі хлапатлівы й непрактычны, таму, калі няма свайго собскага, дык лепш купіць насеньне з запа-



рукаю, што яно здаровае, а пратручваньня гарачаю вадою ўжываць у канешнай толькі патрэбе.

Пратручваньне (байцаваньне) хэмічнымі спосабамі вельмі выгоднае й адносна недарагое. У апошнім часе ўжываюць гэтак званых с у х і х прэпаратаў, якія значна ўпрошчываюць працу й час. Прэпаратаў гэткіх, больш ці менш прыгодных, ёсьць вельмі шмат. Выпрабаваны дагэтуль: Успулюн (Uspulun), Гермізан (Germisan), а з польскіх — Зярнік (Ziarnik).

Пры пратручваньні насеньня трэба трымацца гэткіх правілаў, без якіх праца гаспадарова была-б на нішто:

1. Дапільноўваць дакладна ч а с азначаны ў далучываных паясьненьнях аб ужываньні прэпарату.

2. Растворы рабіць так густыя й у такой прапорцыі, як гэта падаецца ў паясьненьнях, бо слабейшыя (радзейшыя) мала памогуць, а мацнейшыя абніжаюць працэнт ускодлівасьці.

3. Пры м о к р ы м спосабе пратручваньня раствор павінен пакрываць зерне на якіх 10 см. высака.

Часта спаткаць можна пратручваньне сяўбовага насеньня пры помачы сіняга каменя. Гэты спосаб ня ёсьць добры і ў краёх з высокай земляробскай культурай ён ужо занік. Ён абніжае на 15 прац. ускодлівасьць насеньня. Але калі хто міма ўсяго гэтага сіняга каменя ўжывае, павінен: 1. раствор прыгатаўляць сільнейшы й 2. насеньне трымаць у ім карацей. Вялікую абмылку робіць той, хто пасеўнае насеньне мочыць доўга, або хто яго толькі зьверху пакропіць. Перамочанае (задоўга мочанае) насеньне доўга ня высыхае, а мокрым насеньнем кепска сеяць. Доўгім мачэньнем у растворы забіваюцца расткі ў зярняці.—З другога боку самага толькі пакропленьня насеньня яшчэ за мала, бо ад гэтага ня зьнішчацца ўсе шкодныя зародкі. Але калі пакропліваць насеньне ў судзіне, якая стала круціцца ўвакруг свае восі, дык гэта можа й памагчы, бо ў такім выпадку насеньне добра перамешваецца.

# Чаму ня сееце шальбабону?

Ад часу калі навука даказала, як незраўнана здаравейшай стравай для чалавека зьяўляецца страва расьлінная й малочная, чымся мясная, — усё больш увагі зварочваецца на ўсякую агародніну. Аднэй-жа з найбольш пажыўных агароднін зьяўляецца **шальбабон**, інакш ведамы йшчэ як фасоля.

Уласьціва кажучы шальбабон зьяўляецца агароднінай толькі ў нас, бо ў цяплейшых краёх, з багацейшымі ад прыроды землямі, шальбабон гадуюць так-жа й на палёх.

У кожным разе шальбабон патрабуе глебы глыбокай, добра выробленай і выгнаенай. Удаецца найлепш на бульбянішчы, а сарты высока растучыя ўдаюцца таксама добра ўсееныя ў самую бульбу. Сьвежага гнаеньня хляўным гноем ня любіць і лепш удаецца ў другім годзе па такім гнаеньні. Азотнага ўгнаеньня шальбабон зусім не патрабуе, затое вельмі яму памагае ўгнаеньне фосфарнае й потасавае: па 30 клг. супэрфосфату ці томасшляку й гэтулькі сама 20 прац. потасавай солі на 100 кв. м. агароду.

Ёсьць вельмі шмат гатункаў шальбабону, якія розьняцца між сабой формай і колерам зярняці, а таксама спосабам росту. На продаж у горад найлепш ідзе дробны шальбабон б е л ы. Акрамя белага шальбабону ёсьць яшчэ шальбабон з зярнятамі шэрымі, рабымі й нават чорнымі. Калі гаварыць аб форме шальбабону, дык бывае ён або агародні, высокі, або польны, нізкі. Асобнай увагі заслугоўвае шальбабон шпараговы, які варыцца ў цэлых струках, ня лушчаны.

Садзіцца шальбабон у прыгатаваную глебу толькі тады, калі ўжо не пагражаюць вясьняныя прымаразкі. Агародні (высокі) шальбабон садзіцца ў рады, адзін ад другога на паўмэтра, а ў радох каліва ад каліва на 30 см. У адну ямку садзяцца рукой даволі глыбока па 2—3 зярняці, якія зараз-жа старанна абціскаюцца зямлёй.

Пасаджаны шальбабон усходзіць даволі хутка й тады трэба палоць каля яго ўсякае пустазельле і акапаць (як бульбу). Калі гдзе шальбабон не абыйшоў, трэба ў тое месца пасадзіць расьлінку нанова з тых мясцоў, дзе абыйшло больш як дзьве расьлінкі.

Нізкі (польны) шальбабон пры зьбіраньні вырываецца з карэньнем і дасушываецца ў копках, на казлох, прыкрытых саламянай „шапкай"; пасьля — малоціцца й дасушываецца на праверўным сухім месцы. Высокі шальбабон, які віецца на ўстаўленых высокіх тычках, абіраецца ў меру дасьпяваньня. — Спажыўная вартасьць, шальбабону ў тым, што ён мае ў сабе аж 23 прац. бялкоў, 2.8 прац. туку й каля 50 прац. безазоцістых сучастак.

*Р. С—скі.*



# Ці крот ёсьць шкоднікам?

Агулам бяручы рахуюць крата шкоднікам, бо ён рые зямлю на сенажацях, у агародах, садох і ўсюды там, дзе гэта чалавеку здаецца быць нявыгодным. Іншых прычын „віны" крата ніхто не паказвае. З другога боку ведама аднак і тое, што крот жывіцца ўсякімі шкоднікамі, якіх поўна ў зямлі і якіх чалавек звычайна ня бача. Прасьледзіла гэта аднак і паказала навука. У Бэрлінскім Інстытуце Земляробства й Лясьніцтва была зроблена проба з 140 кратамі, у туыбухах каторых былі знойдзены зародкі майскіх хрушчоў (у 104 выпадках), іншых хрушчоў (73), капусных матылёў (32), дажджавікоў (рабакоў) — (65), астаткі пашы расьліннай (96). Усяго за адзін год крот нішчыць 32 клг. ўсякіх схаваных у зямлю шкоднікаў. Лічба незвычайна высокая!

Ясна згэтуль, чым у першую чаргу крот корміцца й таму зразумелай ёсьць так-жа ягоная карыснасьць. Апраўдальнай ёсьць так-жа й тая „шкода", якая дзеіцца гаспадару з кратовых калідораў. Зразумець трэба, што крот іх рые не для прыемнасьці сваей, а ў пагоні за земляробавымі шкоднікамі. Калі да гэтага дадаць яшчэ, што зьнішчаныя кратом зародкі ўсякіх шкоднікаў не дадуць тых новых зародкаў, якія з выклюнуўшыхся шкоднікаў вырасьлі-б, дык ка-

рыснасьць крата станецца бясспрэчнай і выразнай.

Таму, калі кратовішчы каму не пажаданыя, дык можа кратоў выгнаць, але ня сьмее іх забіваць. А выгнаць ня цяжка, ведаючы, што краты: любяць супакой і ня церпяць смуроду карасіны. Дзеля таго найчасьцей даволі ў норы кратовы залажыць анучкі змочаныя карасінай, а на большых прасторах — закапаць да палавіны ў зямлю пустыя незакоркаваныя бутэлькі. Найменшы вецярок, абіваючыся аб берагі бутэлькі, пераносіць у зямлю вялікі шум, каторага крот баіцца й ад каторага ўцякае. Як дзеіць на крата карасіна — ясна й зразумела кожнаму.



# Як усьцерагчыся ад пяруноў

Пярун гэта нішто іншае, як электрычная іскра, якая ляціць з хмары ў зямлю. Гэта іскра здольна дзераўляныя прадметы запаліць, жывыя творы (й чалавека) параніць або забіць, а няжывыя (напр. пясок) растапіць і зліць у адну масу, падобную да палівы. Час—ад—часу знаходжаныя на полі гэтак званыя *пяруновыя стрэлы* і зьяўляюцца такімі іменна зьліўкамі, а апавяданьні аб тым, што падчас страляньня пяруна валяцца з наба гэткія „стрэлы“, трэба разумець як звычайныя байкі. З хмары ляціць на зямлю не страла, а іскра, якая, спатыкаючы на сваей дарозе пясок, зьлівае яго сваей гарачынёй у ком, стралу.

Але бліжэй да рэчы.

Чым—бы пярун ня быў, ён заўсяды для чалавека небясьпечны і таму трэба ад гэтага пяруна стараніцца, а ўласьціва кажучы пераваздзіць пяруновую іскру з хмары ў зямлю ў тым месцы, гдзе гэта чалавеку нічога ня шкодзіць. Гэткім пераводам ці пераводчыкам і зьяўляецца гэтак званы **адгромнік** (папольску „piorunochron“, парасейску „громосвод“). Апісваць адгромніка мы тут ня будзем—было гэта ў „Самапомачы“ прад 5-цю гадамі і туды цікавых адсылаем. Тут зазначым толькі, што устройства аднаго адгромніка каштуе сягоньня халя 30 зл,. а бароніць ён ад пяруна ня больш як плошчу аднае толькі сялібы: хата, панадворак, хлявы, не заўсяды і гумно, бо яно звычайна стаіць воддаль.

Акрамя адгромніка сьцягіваюць пяруновую іскру так—жа высокія дрэвы, асабліва такія, якія стаяць у полі адзінока. Таму нябесьпечна пад такімі дрэвамі станавіцца падчас буры з пярунамі. Урэшце пяруновую іскру сьцягівае такжа звычайны скразьняк. Ня можна дзеля таго падчас буры трымаць адчыненымі вокны ці дзьверы, незамкнёныя юшкі (коміны) і наагул ня можна дапускаць усяго таго, што ўводзіць рух паветра. Таму такжа небясьпечна падчас буры з пярунамі ісьці а тым-больш бегчы праз адкрытае поле: бесьпячней стаць на месцы нярухома, або нават легчы на зямлю, і то ў найніжэйшым месцы. Ня можна пры гэтым мець пры сабе жалезных ці нават толькі кованых кіёў, парасонаў ці такой гаспадарскай снасьці як сярпы, косы і г. д.

Найбесьпячнейшыя прад пярунамі месцы ў хаце, гэта пасярэдзіне, а не пад сьцяной, а тым больш ня між вакон.

Заданьне адгромнікаў выконваюць так-жа радіовыя антэны, але іх прад бурай трэба заўсяды злучыць з зямлёй, г. зн. правод з антэны павінен весьці не ў апарат, але ў зямлю.

В. Р.

# † Інж. З. Хмялеўскі

24 красавіка сёл. памёр адзін з першых арганізатараў польскай коопэрацыі, перад усім земляробскай — малачарскай і крэдытовай, — інж. З. Хмелеўскі. Нейкі час быў ён заняты як віцэміністр адроджанай Польшчы, але душой астаўся ён коопэрацыі верным да апошніх дзён жыцьця. Па зьмене польскага коопэратыўнага закону ў 1934 г., які падпарадкаваў коопэрацыю ў Польшчы чыньнікам некоопэратыўным, нябожчык адсунуўся ад жыцьця ў саюзных арганізацыях коопэратываў і пасьвяціўся працы пісьменьніцкай і пэдагогічнай, — так-жа ў галіне коопэрацыі. Ягонай заслугай і працай паўстала коопэратыўная земляробская школа ў Налэнчаве (пад Люблінам), дзе Хмелеўскі выгадаваў між іншым і некалькіх коопэратараў б е л а р у с а ў, якіх вельмі заахвочваў да працы ня толькі гаспадарчай, але й беларуска-н а р о д н а й.

Вечная Яму памяць!

*Вучань-беларус*

# Гаспадарская хроніка

**Праекты...** У Сойм унесены ўзноў праект закону аб непадзельнасьці земляробскіх гаспадарак. Чуваць так-жа, што думаюць і аб увядзеньні манаполю на збожа, чаго між іншым дамагаўся апошні зьезд саюзу кооператываў „Сполэм!“ —Праект першага закону ўжо раз (1937) у Сойме быў, а справа манаполю ў сваім часе разьбілася аб нястачу грошаў патрэбных на будаваньне магазынаў. Сягоньня кажуць, што можна было-б на гэту справу абярнуць грошы сабраныя з падаткаў ад перамолу збожа ў млынох.

**Найдалей за 15 гадоў** мае быць праведзена комасацыя грунтоў ува ўсей Віленшчыне. Дагэтуль найбольш земляў было скомасавана ў павеце Дзісенскім (60.1 прац., астаецца да скомасаваня 39.9 прац.) і Браслаўскім (55.3 прац.); далей — скомасавана ў паветах: Сьвянцянскім — 54.3 прац., Вялейскім —36.6 прац., Віл.-Троцкім — 36.5 прац., Ашмянскім — 34.5 прац., Маладэчанскім — 33.3 прац. і Постаўскім — 26.3 прац. — У пляне працы на 1939-40 год ёсьць скомасаваньне ў цэлай Віленшчыне дальшых 65,541.5 гэктараў; з гэтага ў паветах: Дзісенскім 11105.8 га, Браслаўскім — 10512.9, Сьвянцянскім — 7533.6, Віл.-Троцкім — 11036.9, Ашмянскім — 6025 0, Маладэчанскім — 4532.4 і ў Постаўскім — 6909.1 га.

**З 10-ёх новых бровараў у Віленшчыне** зацьверджана тымчасам толькі 7. З праектаваных толькі 2 бровары коопэратыўныя, а рэшта — прыватныя. Праектаваныя бровары размешчаны гэтак: у Сьвянцянскім пав. — 3, у Браслаўскім і ў Маладэчанскім — па 2 і ў Віленска-Троцкім, Вялейскім і Дзісенскім — па 1. Шырэй запраектавана браварніцтва ў Горадзеншчыне, бо ў адным толькі Горадзенскім павеце прадбачыцца аж 6 новых бровараў, паймена: у Скалубаве каля Горадні, у Цяцераўцы; у Ськідлю й Чарлёне (адбудоўваюцца прадваенныя); урэшце два бровары ў Бярэставіцы. У праекце так-жа будова бровару ў Навасёлках і ў Жыдомлі.—У Навагрудзкім павеце праектуецца коопэратыўны бровар у Асташыне.

**Ці патанее мыла?** Улады пачалі гутарку з фабрыкантамі мыла аб зьніжцы цэнаў на „мыла марковае“ (да мыцьця хусьця) да роўня 100 зл. за 100 клг. Фабрыканты быццам згаджаюцца, але кажуць, што „трэба абніжыць кошты прадукцыі“; гэта знача абрэзаць і заработкі работнікаў...

**Наказ зьмяняць назовы.** Наказам Міністра Унутр. Спраў з 18.4.39 зьменены назовы некаторых мясцовасьцяў у Навагрудзкім ваяводзтве. Між інш.: **Дурневічы** ў гм. Гарадышча, пав. Баранавіцкі перайменаваны на „Грабков“, **Дэлятычы**, Любчанскай гм. Навагрудзкага пав. перайменаваны на „Дэнбы Бернацке“, **Сабакінцы** Шчучынскага пав. перайменаваны на „Нарбутово“ й шмат іншых.

**Кірмаш на коні** ў Ашмяне адбудзецца 4 і 5 ліпня.

**Аўтамабілі** паганяныя дрэўным газам пачала вырабляць Дзяржаўная Фабрыка „P. Z. Inż.“ Цікавым у гэтых аўтамабілях ёсьць тое, што яны замест бэнзыны ці сьпірту карыстаюць з звычайных дроў.

**Літва цікавіцца** нашым насеньніцтвам варыва й ушчэпамі пладовых дрэўкаў. Ёсьць гэта дальшым рэзультатам гандлёвых і гаспадарчых перагавораў Літвы з Польшчай.

**Прыватныя лясы Віленшчыны.** Паводле статыстычных падлічэньняў, агульны прастор заняты прыватнымі лясамі ў Віленшчыне займае 356.000 га. З гэтага сялянскія (да 50 га) гаспадаркі маюць толькі 39.493 га (ў 4.204 гаспадарках), а абшарніцкія — 317.807 га (ў 533 гаспадарках).

**Кірмашы ў Варапаеве** заведзены на кожную сераду, а калі ў сераду сьвята, дык на наступны дзень таго-ж тыдня.

**Пушчу Налібацкую,** якую дагэтуль эксплёатавала прыватная супалка, адкупіла казна, заплаціўшы 650.000 зл.

**На работу ў Літву** сёлета выехала з Віленшчыны 2.000 асоб.

**Сыраварскую школу** маюць адчыніць у Сваятычах, Баранавіцкага павету.

**Дзень коопэрацыі** ў Польшчы сёлета абходзілі 11 чэрвеня.

*Pierasyłka apłačana ryčałtam*



**Стыпэндыі Зямельнага Банку** (Państwowy Bank Rolny) для вучняў земляробскіх школ прызнае Стыпэндыяльная Камісія Банку ў Варшаве (ul. Nowogrodzka 50). Прасіць аб стыпэндыю можна толькі за пасярэдніцтвам школы, у якой вучань вучыцца.

**20-цізлотныя банкноты,** сьцягіваныя з абароту 1,III.26 і 1.IX.29, з рысункамі жняяркі і Мэркуры'я на абразе з пярэдняй стараны банкноту, прыймае эмісыйны аддзел Польскага Банку ў Варшаве найпазьней да 30 чэрвеня сёл. Банкноты 20-ці злотныя з датай 20.VI.31 г., з жаноцкай галавой у мэдальёне па правай старане, а так-жа такой-жа вартасьці банкноты з датай 11.XI.1936 г. далей важныя й ідуць у абароце.



## Абарона прад пажарам

Няшчасьце пажару само сабой зразумелае і таму зразумелым ёсьць імкненьне людзей да абароны процiў гэтага няшчасьця. Арганізацыю процiпажарнай абароны ў Польшчы рэгулюе адумысны закон з 13.III.1934 г., да каторага толькі нядаўна выдана было распараджэньне выканаўчае (Расп. Мін. Унутр. Спраў з 6.IV.1939, Dz. U. № 37, poz. 242, 1939).

Паводле гэтых пісаных законаў і распараджэньняў арганізацыя процiпажарнай абароны дзеліцца на тры аснаўныя часьці: 1. Арганізацыя процiпажарнай варты, 2. Прымусовае закладаньне ўсюды пажарных стражаў і 3. Агульны абавязак памаганьня пры самым пажары.

Д а в а р т а в а н ь н я (ночнага й дзеннага) абавязаны кожны, хто жыве ў сяле (гміне). Спосаб і парадак арганізацыі варты ўстанаўляе гміна на цэлы год наперад, з тым, што такі гадавы плян павінен быць гатовы ўжо на 1 лістапада й быць агульна-даступным да перагляду жыхараў гміны.

## *Гаспадарская ўсячына*

**Зьмена закону аб лесе.** Гаспадарка ў прыватных лясох у Польшчы кіруецца, як ведама, распараджэньнем Прэзыдэнта з 1927 г. Гэта распараджэньне чатыры гады таму назад было ўжо раз зьмянянае, а анагдай прыгатаваны быў праект другой такой зьмены. Праект гэты скарочвае срок залясеньня з трох да аднаго году. З другога боку і на залясеньне (засаджваньне лесу) патрэбны дазвол. Уводзіцца сільнейшы дазор над недапушчальнасьцю замены спосабу карыстаньня лясных грунтоў. Пляновасьць лясной гаспадаркі ў нас абавязвае ўжо на абшарах ад 50 га. Аб кожным праектаваным вырубліваньні лесу трэба будзе паведамляць надзорчую ўладу, якая ў працягу двух тыдняў можа такое вырубліваньне забараніць. Урэшце, падбор лясной службы, нават у прыватных лясох, будзе залежыць ад уладаў адміністрацыйных, якія пры гэтым маюць кіравацца меркаваньнямі абароны дзяржавы.

Як відаць, закон гэты і далей пакідае вольную руку для гаспадарак дробных. Каб-жа гэтага не надужывалі розныя перакупшчыкі, якія бязмысна нішчаць наша народнае багацьце.

**На процiўналётную пазыку** (Р.О.Р.) ува ўсей Польшчы было сабрана падпісак на суму каля 118 прац. Пазыкі Нацыянальнай („Пож. Народовэй). Але на Палесьсі гэта сума дасягнула 160 прац., у Віленшчыне 175 прац., а ў Наваградчыне — аж 197 прац. (блізу ўдвая больш).

**«Каморнікамі»** ня хочуць называцца судовыя чыноўнікі, якія зьбіраюць засуджаныя належнасьці. Падалі яны анагдай у Сойм праект, каб у будучыні называцца „судовымі камісарамі“. Што будзе з гэтым праектам, — яшчэ няведама.

---

Стражы пажарныя звычайна бываюць д а б р а в о л ь н ы я, але калі ахвотных да такой стражы не акажыцца, дык гміна мае абавязак завесьці пажарную страж п р ы м у с о в у ю. Учасьце ў такой стражы няплатнае.

Урэшце ў часе пажару кіруе ратункам начальнік пажарнай стражы й кожны павінен ягоных наказаў слухаць. Ад учасьця ў ратаўнічай акцыі пры пажары звольнены толькі: няздольныя да працы, кабеты цяжарныя й з дзяцьмі да 6 гадоў, непаўналетнія да 14 гадоў і старэйшыя 60 гадоў.

„Самапомач“ выходзіць раз на месяц

ПАДПІСКА на „Самапомач“: на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — кожнага нумару на цэлы год — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым перakazам“ на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1.

Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Redaktor K. CZERTOWICZ
Рэдактар К. ЧЭРТОВІЧ

Wydawca: „BIEŁPRES“
Выдавец: „БЕЛПРЭС“

Białoruska Drukarnia im. Fr. Skaryny w Wilnie: Zawalna 1.
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.